Бурачонак, А.В. Прадпрымальніцкая дзейнасць мяшчанства Беларусі ў сферы прамысловасці ў другой палове XIX — пачатку XX ст. / А.В. Бурачонак // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 3-9.

**А.В. Бурачонак**

# ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ КУПЕЦТВА І МЯШЧАНСТВА БЕЛАРУСІ Ў СФЕРЫ ПРАМЫСЛОВАСЦІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

У сярэдзіне XIX ст. Расійская імперыя, якая стала на шлях мадэрнізацыі эканомікі, зрабіла значны скачок, адным з вынікаў якога стала рэзкае павышэнне дзелавой актыўнасці. Прадпрымальнікі, якія былі зацікаўлены ў аптымальным укладанні сваіх капіталаў, даволі часта выркарыстоўвалі перадавыя формы вядзення гаспадаркі. Пераўтварэнні, якія адбываліся ў эканоміцы краіны, шмат у чым змянялі яе аблічча. У 60—70я гг. XIX ст. ва ўмовах адноснай лібералізацыі (у параўнанні з мінулымі гадамі) ствараліся больш спрыяльныя ўмовы для кансалідацыі гандлёвапрамысловых колаў. У гэты перыяд сярод прамысловай эліты актывізуецца імкненне да арганізацыйнага адзінства, адбываецца пошук шляху да класавага афармлення і абароны сваіх інтарэсаў. У беларускіх губернiях гэты працэс меў свае асаблівасці, якія тычыліся перш за ўсё фарміравання слоя мясцовай прамысловай буржуазіі і далейшагастанаўлення прамысловага прадпрымальніцтва.

Дадзеныя асаблівасцібылі абумоўлены мясцовымі эканамічнымі ўмовамі, а таксама ўнутранай і знешняй палітыкай Расійскай імперыі. У сферу прадпрымальніцртва ўсё больш актыўна ўключаліся самыя разнародныя сацыяльныя, нацыянальныя, канфесійныя групы насельніцтва. Гэта былі не толькі і не столькі прадстаўнікі купецкага саслоўя, колькі нашчадкі дваранскіх сем’яў, выхадцы з мяшчанства і сялянства, капіталісты з ліку падданых замежных дзяржаў. Кожная група прыўносіла свой вопыт і аказвала ўплыў на фарміраванне новага дзелавога асяроддзя.



Як было адзначана вышэй, прадпрымальніцтвам у Заходніх губернях Расійскай імперыі займаліся прадстаўнікі розных саслоўяў — дваранства, купецтва, мяшчанства і інш. Асаблівае — у параўнанні з іншымі саслоўямі — становішча зямельнага ўласніка абумовіла пануючую пазі цыю дваран. Яно ў сукупнасці з гістарычнымі традыцыямі спрыяла таму, што амаль усе асноўныя галіны народнай гаспадаркі апынуліся пад кан тролем гэтага саслоўя. Вызначальным з’яўляецца той факт, што ні ў ад ным іншым рэгіёне Расійскай імперыі дваранства не займала такіх моц ных пазіцый у прадпрымальніцтве [14, с. 126]. Але на працягу другой паловы XIX ст. дваране пачынаюць паступова страчваць лідзіруючую ролю ў прамысловым прадпрымальніцтве, а іх месца займаюць прад стаўнікі гарадскіх саслоўяў — купецтва і мяшчанства.

Даследаванне прамысловапрадпрымальніцкай дзейнасці купецтва і мяшчанства як складаючай часткі гарадскіх саслоўяў Беларусі мае вя лікае значэнне для вывучэння пытання фарміравання прамысловай элі ты Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Пэўныя аспекты прад прымальніцкай дзейнасці гарадскіх саслоўяў Беларусі знайшлі адлюст раванне ў даследаваннях М. Ф. Болбаса [1; 2] і Н. І. Палятаевай [3]. Ар тыкул падрыхтаваны на аснове дадзеных «Указателя фабрик и заводов Европейской России» за 1881 і 1894 гг. [12; 13], а таксама «Списка фаб рик и заводов Российской Империи» за 1903 і 1910 гг. [10; 11]. Асновы саслоўнага падзелу гарадскога насельніцтва Расійскай імпе рыі былі сфарміраваны пераўтварэннямі часоў Пятра І і рэформамі Ка цярыны ІІ. У канчатковым выглядзе прынцыпы саслоўнага падзелу былі вызначаны Маніфестам 17

сакавіка 1775 г. і праіснавалі без радыкаль ных змен да 1917 г. Згодна з дадзеным заканадаўчым актам, «мяшча нам, якія не маюць капіталу звыш 500 рублёў, забараняецца называцца купцамі; купцы, якія маюць капітал звыш 500 рублёў, але зрабіліся бан кротамі, павінны таксама запісвацца ў мяшчанскае саслоўе. І толькі тым мяшчанам, чый капітал складае звыш 500 рублёў, можна запісвацца ў купецкае саслоўе»[4, № 14275]. Такім чынам, пры вылучэнні новых сацыяльных груп выкарыстоўваўся маёмасны цэнз — багатыя гараджане павінны былі прыпісвацца да купецтва, менш забяспечаныя — да мяшчанства і рамеснікаў. Пасля далучэння Заходніх губерняў да Расійскай імперыі прынцыпы саслоўнага падзелу былі распаўсюджаны і на жыхароў гэтых тэрыторый. У выніку ў горадзе склалася сацыяльная іерархія, на чале якой зна ходзілася купецтва. Апошняе, згодна з Маніфестам 1775 г., падзялялася на тры гільдыі, прыналежнасць да якіх вызначалася памерам капіталу.



Купецтва першай і другой гільдый мела права на ўсе віды гандлю, за снаванне фабрык і заводаў, вызвалялася ад казённай службы. Купцы, якія былі запісаны ў трэцюю гільдыю, мелі права толькі на дробны ган даль і ўтрыманне дробных фабрык і майстэрняў.

Склаўшаяся ў канцы XVIII ст. сістэма арганізацыі «гандлёвапрамыс ловага» саслоўя, якое ўваходзіла ў састаў гараджан, канчаткова аформі лася ў першай палове XIX ст. з выхадам у 1832 г. «Свода законаў», які ўключаў у сябе том IX «Аб станах». Аднак і ў ім прынцыпы саслоўнай сістэмы не былі строга рэгламентаваны, што дапускала магчымасць іх неадназначнага тлумачэння. Па дзейнічаўшым заканадаўстве ўсе «пры родныя жыхары Расіі» складаліся з «чатырох асноўных радоў людзей»: дваранства, духавенства, гарадскія жыхары, сельскія жыхары. Пад «га радскімі жыхарамі» разумеліся «асобы, аднесеныя да сярэдняга роду лю дзей», а менавіта гільдыйскае купецтва, ганаровыя грамадзяне і мяш чанства [9, с. 458—459]. Незадоўга да адмены прыгоннага права адбылася падзея, якая стала першым крокам на шляху кансалідацыі прадпрымальнікаў у сацыяль ную групу, у якой усе прадстаўнікі былі надзелены роўнымі правамі. 16 сакавіка 1859 г. быў прыняты

Закон «Аб прадастаўленні купцам 1й гільдыі і яўрэям права жыхарства і гандлю паза межамі жыхарства яў рэяў» [6, № 34248]. У 1863 і 1865 гг. [5, № 39118; 6, № 41779] былі пры няты заканадаўчыя акты, у выніку якіх «гандлёвапрамысловае» саслоўе страціла апошнія рысы замкнёнасці. Толькі адзіны крытэрый — занятак гандлёвапрамысловай дзейнасцю — служыў інстытуцыйным фак тарам і вызначаў прыналежнасць да купецкага саслоўя. А новае «Палажэнне аб пошлінах за права гандлю і промыслаў» 1863 г. дэкларавала поўную свабоду прадпрымальніцкай дзейнасці. Мяшчанскае саслоўе было традыцыйна самай блізкай да купецтва групай гарадскога насельніцтва. За мяшчанствам таксама было замаца вана права займацца гандлем і прамысловасцю ў самым дробным маш табе. У 1785 г. дадзенаму саслоўю дазваляліся гандлёвапрамысловая дзейнасць і валоданне аб’ектамі інфраструктуры прадпрымальніцтва (нерухомая маёмасць — дамы, фабрыкі і інш.) у межах гарадскіх пася леняў [5, № 161188]. Акрамя гэтага, мяжа, якая падзяляла два саслоўі, была вельмі хісткай: збяднелыя купцы павінны былі ўступаць у склад мяшчанскага саслоўя, а разбагацеўшыя мяшчане без цяжкасцей пера ходзілі ў купецкае. У адносінах да мяшчанскага саслоўя найбольш яскрава праявілася сутнасць фіскальнай палітыкі самадзяржаўя ў гандлёвапрамысловым



заканадаўстве. Нерацыянальная сістэма падаткаабкладання тармазіла развіццё прадпрымальніцкай актыўнасці мяшчан. 14 лістапада 1824 г. быў абвешчаны маніфест «Аб стварэнні гільдый і гандлі астатніх саслоў яў», згодна з якім праектавалася стварыць

новыя разрады: гандлюючых мяшчан і гандлюючых рамеснікаў, якія вылучаліся з існуючых саслоў ных груп і атрымлівалі больш шырокія гандлёвыя магчымасці (мяшча не, якія не траплялі ў разрад гандлюючых, атрымлівалі назву «пасад скія»). Мяшчанства павінна было выкупляць пасведчанні на права вя дзення прадпрымальніцкай дзейнасці ў дробных памерах. Але прынятая рэформа не адпавядала эканамічным магчымасцям мяшчанства і была адменена ў той частцы, якая датычылася дробнага гандлю і промыслаў.

У 1830я гг. быў выдадзены шэраг заканадаўчых актаў, якія рэгуля валі сістэму сацыяльнага кантролю ў асяродку мяшчанскага саслоўя. Згодна з імі мяшчанства складалася з мяшчанскага таварыства, удзель нікі якога былі звязаны паміж сабой кругавой парукай і ўзаемнай ад казнасцю за выплату подацей, і саслоўных груп працоўных і цэхавых, якія неслі асабістую адказнасць за выплату. Працягваючы выплочваць падушную подаць, мяшчанскае саслоўе адчувала няёмкасць ад шматлікіх абмежаванняў сваіх правоў, якія насілі саслоўны характар. Пэўным чы нам сітуацыя змянілася толькі ў канцы XIX ст. З прыняццем у 1898 г. закона аб прамысловых падатках з’яўляецца кампраміс паміж саслоў ным і бессаслоўным прынцыпамі. Згодна з гэтым законам памеры вы платы залежалі не ад саслоўнай прыналежнасці ўладальніка, а ад непа срэднага даходу прадпрыемства.

У першыя два парэформенныя дзесяцігоддзі рост прамысловасці на тэрыторыі Заходніх губерняў быў марудным, большасць прадпрыем стваў заставаліся на дробнатаварнай, мануфактурнай стадыі. Павелічэн не тэмпаў развіцця прамысловасці ў фабрычназаводскай сферы выт ворчасці пачынаецца толькі ў канцы 70х — пачатку 80х гг. XIX ст. У фабрычназаводскай сферы вытворчасці канца 70х — пачатку 80х гг. XIX ст. купецкія прадпрыемствы займалі лідзіруючыя пазіцыі па вытворчасці сукна (60 % прадпрыемстваў знаходзіліся ва ўласнасці ку пецтва), запалак (каля 33 %), мыла (каля 71 %), медных і бронзавых вырабаў, дражджэй, гарэлкі (каля 74 %), тытунёвай прадукцыі (каля 73 %) [12]. Прамысловапрадпрымальніцкая дзейнасць мяшчанскага саслоўя ў канцы 70х — пачатку 80х гг. XIX ст. была нязначнай. У гэты час мяш чанства ў асноўным працягвала займацца рамесніцтвам, а таксама скуп кай прадукцыі і сыравіны дробных памешчыцкіх прадпрыемстваў. Па-



ступова апошнія пераходзілі ў рукі мяшчан, і такім чынам мяшчанскае саслоўе станавілася часткай прамысловай эліты краіны. На гэтым эта пе мяшчанства валодала большасцю фабрык і заводаў, якія займаліся апрацоўкай скуры (48 % ад усіх прадпрыемстваў былі мяшчанскімі) і вытворчасцю піва (25 %) [12].

Асаблівы этап развіцця прамысловага прадпрымальніцтва Беларусі звязаны з перыядам канца XIX — пачатку XX ст. Нягледзечы на крызіс канца 80х — пачатку 90х гг. XIX ст, купецтва пачало засвойваць новыя галіны вытворчасці. Вынікам гэтага працэсу стала паскоранае накап ленне капіталу і ператок яго ў сферу прамысловасці. Купецтва захоўва ла свае пазіцыі сярод уладароў жывёлаапрацоўчых і тэкстыльных прад прыемстваў, але ў той час засноўвала новыя фабрыкі і заводы па вы творчасці драўляных вырабаў (40 % прадпрыемстваў з’яўляліся ку пецкімі), вапны (40 %), па колькасці якіх паступова займала першыя месцы.

Значным было прадстаўніцтва купецкага саслоўя ў вытворчасці тытунёвых вырабаў, дзе з 38 улічаных фабрычназаводскіх прадпрыем стваў 33 з’яўляліся купецкімі [13]. У параўнанні з перыядам канца 70х — пачатку 80х гг. XIX ст. удзельная вага прадпрыемстваў, якія належалі купецтву, знізілася. Гэта тлумачыцца высокімі тэмпамі ўкаранення па равых рухавікоў на дваранскіх вінакурных заводах, якія складалі больш за палову фабрычназаводскіх прадпрыемстваў беларускіх губерняў у адзначаны перыяд. Як было зазначана, другая палова 90х гг. XIX ст. была адносна спры яльным перыядам для развіцця прамысловай вытворчасці Беларусі, якое праходзіла ва ўмовах агульнага

эканамічнага пад'ёму. Купецтва не зас талося ў баку ад гэтага працэсу. У гэты ж час вызначаюцца асноўныя прыярытэты ў развіцці прамысловай вытворчасці, выяўляюцца асноў ныя галіны дамінавання мяшчанскіх прадпрыемстваў, якое працягва лася і ў наступныя гады. У канцы XIX ст. мяшчанскае саслоўе стала зай маць лідзіруючае становішча ў некаторых відах прамысловасці. Так, у мылаварнай вытворчасці гэтаму саслоўю належала 57 % ад усіх прад прыемстваў, у гарбарнай — 66 %, у вытворчасці штучнай мінеральнай вады — больш 50 %, каля паловы ўстаноў па вырабу запалак, у півавар най — каля 23 %, у маслабойнай — каля 36 %, у вапнавай — 42 %, у цаглянай — 33 %, у суконнай — каля чвэрці ўсіх прадпрыемстваў [13]. Дадзеныя прамысловых перапісаў сведчаць аб тым, што мяшчане дас таткова актыўна займаліся фабрычназаводскай дзейнасцю. Мяшчан ства Заходніх губерняў прымала больш актыўны ўдзел у развіцці пра мысловага прадпрымальніцтва, чым у астатніх губернях Еўрапейскай



Расіі. Напрыканцы XIX ст. доля мяшчанства сярод прадпрымальнікаў беларускіх губерняў складала 17,6 %. Па гэтым паказчыку Заходнія гу берні былі на другім месцы пасля Царства Польскага.

На пачатку XX ст. колькасць прамысловых прадпрыемстваў, якімі валодала купецкае саслоўе, вырасла нязначна. Купецкія прадпрыемствы адыгрывалі значную ролю ў харчасмакавай і хімічнай вытворчасці (у апошняй яны таксама занялі лідзіруючыя пазіцыі), металаапрацоўцы і апрацоўцы мінеральных рэчываў [10]. Да 1910 г. на перадавых пазіцыях знаходзіліся купецкія фабрыкі і заводы па вытворчасці шпалераў, зем ляробчых машын, шкляных і тытунёвых вырабаў і нават парфумы [11]. Што ж тычыцца мяшчанскага саслоўя, то на пачатку XX ст. яно за хавала свае пазіцыі ў сферах вытворчасці, якія былі звязаны з апрацоў кай воўны (мяшчанству належала 56 % ад усіх прадпрыемстваў), ільну (каля 38 %), скуры (каля 46 %) [10]. Да 1910 г. пад кантролем мяшчан ства заставаліся фабрыкі і заводы па вырабу цэглы (35 % ад усіх прадп рыемстваў), вапны, піва (39 %), скураной прадукцыі (каля 37 %), дзе мяшчанскае саслоўе колькасна пераўзыходзіла іншыя [11].

Такім чынам, у канцы XIX ст. прамысловае прадпрымальніцтва зай мала важнае месца ў дзейнасці гарадскіх саслоўяў беларускіх губерняў Расійскай імперыі. Для гараджан было характэрна паступовае нарошч ванне магутнасці. Аб гэтым можна казаць, гледзячы на няўхільны рост колькасці купецкіх і мяшчанскіх фабрык і заводаў, а разам з тым і аб'ё му вырабляемай на іх прадукцыі. Пры захаванні свайго ўдзелу ў ману фактурных прадпрыемствах, які адказваў інтарэсам і ступені развіцця мясцовага рынку сыравіны і працоўнай сілы, гарадскія жыхары Заходніх губерняў, асабліва ў канцы 80х — пачатку 90х гг. XIX ст., сталі актыўна асвойваць фабрычназаводскую вытворчасць. На пачатку XX ст. вы значылася канчатковае галіновае дамінаванне прамысловых прадпры емстваў гарадскіх саслоўяў у дрэваапрацоўцы, гарбарнай і цаглянай вытворчасці, некаторых галінах харчасмакавай прамысловасці (півава рэнне, вытворчасць тытуню), з якіх яны выціснулі вышэйшае саслоўе; адначасова адбывалася зніжэнне ролі купецкіх і мяшчанскіх фабрык і заводаў у тэкстыльнай галіне.

ЛІТАРАТУРА

1. Болбас, М. Ф. Прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі / М. Ф. Болбас. Мінск : БелСЭ, 1988. 320 с.

2. Болбас, М. Ф. Промышленность Белоруссии 1860—1900 / М. Ф. Болбас. Минск : Издво БГУ им. В. И. Ленина, 1978. 311 с. 9.

3. Полетаева, Н. И. Купечество Беларуси: 60е гг. XIX — начало XX в. / Н. И. Полетаева; науч. ред. М. П. Костюк. Минск : Наука и техника, 2004. 247с.
4. Полное собрание законов Российской империи. Собрание I. Т. XX. СПб., 1830.
5. Полное собрание законов Российской империи. Собрание I. Т. XXII. СПб., 1830.
6. Полное собрание законов Российской империи. Собрание II. Т. XXXIV. СПб., 1861.
7. Полное собрание законов Российской империи. Собрание II. Т. XXXVII. СПб., 1864.
8. Полное собрание законов Российской империи. Собрание II. Т. XL. СПб., 1866.
9. Свод законов Российской империи. Т. IX. Законы о состояниях. СПб., 1846.
10. Список фабрик и заводов Российской империи / под ред. В. Е. Варзара. СПб., 1903.
11. Список фабрик и заводов Российской империи / под ред. В. Е. Варзара. СПб., 1910.
12. Указатель фабрик и заводов Европейской России с Царством Польским и Великим княжеством Финляндским / под ред. П. А. Орлова. 2е изд. СПб., 1881.
13. Указатель фабрик и заводов Европейской России / под ред. П. А. Орлова, С. Будагова. 3е изд. СПб., 1894.
14. Шацило, М. К. Социальный состав буржуазии в России в конце XIX века / М. К. Шацило. М. : ИРИ РАН, 2004. 265 с.